

*З родным словам кроў не стыне...*
*Алесь Бабаед*

# КАРДОН

**№7**

**люты 2000**

Інфармацыйна-публіцыстычны бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства Беларускай мовы"


*РОДНАЯ МОВА*

Мне крыўдна і вельмі балюча
За нашу, за родную мову,
Яе быццам дротам калючым
Звязалі пад саму выснову.

Яе катавалі і білі,
Хацелася польскім магнатам,
Каб мы сваю мову забылі,
Каб [illegible]у загнаці за краты.

Расійскі арол двухгаловы
Драпежна трымаў кіпцюрамі,
Але не загінула мова, -
Жыве, не забытая намі.

А потым фашыстаў навала
Нас знішчыць зусім спрабавала.
Ды матчына мова ўстаяла,
Змагалася й перамагала.

Нам гора і крыўды хапае,
Але мы не з гнуткай пароды,
Бо мова жыве і спявае
У сэрцах і душах народа !

І хай над зямлёй Беларусі
Прывольная песня лунае.
Не [illegible]ову забыць не прымусяць,
Ян[illegible]удзе вечна жывая !

***В. М. Ткачонак,***
***настаўнік Свячанскай школы***

* * *

*Р. І. Барадуліну*

**Ішлі святыя па дарогах**
**Айчыны нашае здавён.**
**У сэрцах неслі вобраз Бога,**
**Святло для хлебадайных дзён.**

**І сёння скрозь абсяг трывожны**
**Самотны ўзыходзіць шлях.**
**...А мы святых спазнаць не можам,**
**Пакуль яны не на крыжах.**

***Алесь Бабаед***

## ВЫНІКІ ПЕРАПІСУ РАДУЮЦЬ

Першы ўсерасійскі перапіс насельніцтва праведзены ў 1897 годзе. Па яго выніках на Беларусі тады жыло 6 млн. 495 тыс. чалавек. Частка насельніцтва з заходняга абсягу роднай мовай называла польскую, на Брэстчыне – украінскую, на ўсходзе -- рускую. Таму на думку многіх гісторыкаў колькасць беларусаў аказалася заніжанай працэнтаў на дваццаць. І нічога ў гэтым дзіўнага . Народ Беларусі прайшоў праз такую гістарычную малатарню, што шмат каму цяжка вызначыць і сваю мову, і нацыянальнасць.

Апошні перапіс насельніцтва Беларусі праводзіўся ў мінулым 1999 годзе. Паводле афіцыйных звестак, апублікаваных у друку, агульная колькасць насельніцтва Беларусі складае 10 млн.045 тыс. чалавек.Гэта на 107 тысяч менш, чым на дату мінулага перапісу 1989 года. Але колькасць беларусаў за той жа час павялічылася на 254 тысячы і ўпершыню перасягнула 8 мільёнаў, што складае 81,2%.

Пытанне распаўсюджання моў сярод насельніцтва, якое, дзякуючы ўмяшанню ТБМ, вывучалася комплексна, дало такія вынікі: беларускую мову назвалі сваёй роднай 6986,9 тыс, або 85,6 % беларусаў і яшчэ 18% небеларусаў , разам гэта больш за сем мільёнаў чалавек., Гэта значна больш, чым 10 гадоў таму назад. Прыемна ведаць, што больш сямі мільёнаў ўсведамляюць сябе беларусамі. Гэта больш чым уся Прыбалтыка, больш чым Фінляндыя, Славакія і інш. 3373,3 тыс (41,3% ) беларусаў паведамілі, што карыстаюцца беларускай мовай у паўсядзённым жыцці.

У Віцебскай вобласці беларускую мову назвалі роднай 84 % беларусаў, з іх 37% размаўляюць дома па-беларуску. А вось даныя па выніках перапісу ў Бешанковіцкім раёне пераўзыйшлі нават самыя лепшыя нашы спадзяванні: 95,7 % жыхароў раёна назвалі роднай мову сваёй нацыянальнасці.Дакладная лічба не паведамляецца, але улічваючы, што ў раёне большасць жыхароў ( 92,6 % ) лічаць сябе беларусамі, вынікі перапісу па моўнаму пытанню не могуць не радаваць.

Але тут адразу ўзнікае шмат пытанняў:

- Чаму для сямі мільёнаў беларусаў няма ніводнай вышэйшай навучальнай установы на іх роднай мове ?
- Чаму іх дзеці не могуць пайсці ў беларускі клас ці школу ?
- Чаму амаль ні адзін начальнік не размаўляе з імі па-беларуску ?
- Чаму іх хрысцяць, шлюбуюць і адпяваюць па-замежнаму ?
- Чаму і выхавацелька ў садку, і сяржант у войску, і дырэктар на заводзе гавораць з імі па-расейску ?

Успомніце папярэджанне Францішка Багушэвіча: " Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі !" Ці не таму памірае ў нас амаль удвая больш, чым нараджаецца, што адракліся мы і ад мовы і ад сваёй славутай гісторыі , ідучы шырокім інтэграцыйным шляхам да страты незалежнасці?

## ЗБОР ПОДПІСАЎ

Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны па ўсёй рэспубліцы шырока разгарнула збор подпісаў за стварэнне Беларускага нацыянальнага універсітэта. У горадзе Ліда, напрыклад, сабрана ўжо 3600 подпісаў. Збірае подпісы і наша Бешанковіцкая суполка ТБМ. Калі Вы хочаце далучыцца да гэтай справы, калі Вы за тое, каб у нашай рэспубліцы з'явілася нарэшце хоць адна вышэйшая навучальная ўстанова, у якой усе прадметы будуць выкладацца на беларускай мове, пазваніце па тэлефоне 2-26-93.

***В. Гракун, кіраунік Бешанковіцкай суполкі ТБМ***

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГЕРОЙ БЕЛАРУСІ

## ПАМЯЦІ
## КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

Са здзіўленнем гляджу, як жыццё працякае
І трывога расце, і пранізвае боль:
За цябе, Беларусь, за цябе, дарагая,
За абразы табе я б пайшоў на двубой.

Расказаць не змагу – кроў застыне у жылах –
Пра мінуўшчыну – страшныя, злыя вякі,
Як тваю незалежнасць зацята душылі,
Прывялі да крыжа і распялі-такі.

Ну скажыце, як вынесці выпрабаванні
Радыяцыяй, страхам, жабрацтвам яшчэ.
Адбіраюць і сонейка промні ўранні –
Мову нашу, - святло васільковых вачэй.

Годзе здзекі трываць ! Ці не ходзяць прывольна
Нашых прашчураў коні па росных лугах?
Абудзіцеся ! І старажытнай Пагоняй
Навядзём на чужынцаў і роспач і жах !

Хай злякаюцца аж, як труба заіграе.
Хай трасуцца, нібы на асіне лісты.
За цябе, Беларусь, за цябе, дарагая,
Я гатовы памерці, каб уваскрэснула ты.

*Георгій Станкевіч*



Кастусь Калиноўскі
(2 лютага 1838-22 сакавіка 1864)
Фота 1862 года.

2 лютага споўнілася 162 гады з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага. А 22 сакавіка 1864 года кат узвёў Кастуся на шыбеніцу. Мала гадоў было адмерана лёсам нашаму нацыянальнаму герою, але ён належыць да ліку тых выдатных людзей Бацькаўшчыны, даты нараджэння і смерці якіх мы забываць не павінны, як і іх справу.

Каліноўскі свядома выбраў трагічны шлях барацьбы за нацыянальнае вызваленне Беларусі. Ён быў адукаваным чалавекам, ведаў пра слаўнае мінулае, калі наша зямля была свабоднай, бачыў, як цяжка і гаротна жыве просты люд і разумеў, чаму ён так жыве. Каліноўскі марыў аб свабодзе і шчасці народа, ненавідзеў царскую ўладу і прыгоннае права, што трымала ў няволі сялянаў. Яшчэ ў Пецярбургскім універсітэце Кастусь стварыў падпольны гурток, у якім разам з сябрамі рыхтаваўся да будучай барацьбы за вызваленне Бацькаўшчыны. Вярнуўшыся ў родныя мясціны ў Гародні Кастусь заснаваў таемную рэвалюцыйную арганізацыю. Ён нястомна ездзіў па наваколлі і рыхтаваў людзей да паўстання. Летам 1862 года ў беларускіх вёсках пачала з'яўляцца першая ў гісторыі беларуская газета – "Мужыцкая праўда", якую выдаваў Кастусь Каліноўскі з паплечнікамі. "Мужыцкая праўда " тлумачыла беларусам як царская ўлада падманвае іх і прыгнятае, адбірае не толькі цяжка зробленыя грошы, але і родную мову ды бацькоўскую веру.

І Беларусь паўстала. З пачатку 1863 года паўстанцкія атрады пачалі з'яўляцца паўсюль. У іх уступала шляхта, чыноўнікі, студэнты і сяляне. Змагары атрымалі некалькі значных перамог, але не хапала зброі і вайсковага вопыту. Наперад вяла толькі вера ў справядлівасць сваёй барацьбы. Расійскім уладам удалося падмануць значную частку сялянаў. Карныя атрады душылі паўстанцаўНягледзячы на адвагу і гераізм пад націскам выдатна абучаных і ўзброеных расейскіх войскаў паўстанцы вымушаны былі адступаць. Царскімі карнікамі кіраваў граф Міхаіл Мураўёў. Калі не дапамагала ўзброеная сіла, ён дзейнічаў подкупамі і ашуканствам. За сваю жорсткасць і крывавыя подзвігі Мураўёў атрымаў мянушку Вешальнік.

128 паўстанцаў былі павешаны або расстраляны. 850 змагароў адправілі на катаргу,11 500 – у ссылку. Пасля паўстання ў Беларусі на ўсе пасады прызначалі толькі перасяленцаў з Расіі. Усе школы былі расійскія. Па-беларуску забаранялася не толькі вучыцца і выдаваць кнігі, але і гаварыць у дзяржаўных установах. Ул[illegible] і зрабілі ўсё, каб беларусы забыліся, хто яны, і ператварыліс[illegible] з вольналюбівага народа ў забітае, бяспамятнае і абязмоўленае насельніцтва, якое можна бязлітасна прыгнятаць і рабаваць.

Кастусь Каліноўскі лічыў вырачэнне ад роднай мовы першым крокам да здрады Радзіме. На беларускай мове ён вучыў народ у сваёй "Мужыцкай праўдзе", па-беларуску аддаваў загады паўстанцам і напісаў свае знакамітыя "Лісты з-пад шыбеніцы". На роднай мове прагучалі апошнія словы Кастуся да свайго народа: "Тады толькі зажывеш шчасліва, калі над табой маскаля ўжо не будзе".

Каліноўскі глыбока разумеў, што беларускаму народу, зняволенаму і прыгнечанаму ў Расійскай імперыі, патрэбна незалежнасць, бо без яе ён можа канчаткова загінуць. Палымяныя словы клікалі беларусаў на барацьбу за свабоду і пасля ягонай смерці. Кат узвёў Кастуся Каліноўскага на шыбеніцу. Гісторыя ж ўзнесла яго на самы высокі п'едэстал. Сваім ахвярным жыццём Кастусь Каліноўскі заслужыў вечную памяць

Геній нацыянальнага героя асвятляе наш шлях да свабоднай, незалежнай Беларусі. Яму прысвячаюць свае лепшыя творы беларускія паэты, мастакі, кампазітары. Сёння мы друкуем верш нашага Бешанковіцкага паэта Георгія Станкевіча, прысвечаны памяці непакорнага змагара за адраджэнне Бацькаўшчыны.

***Я. Мірон***

# ЮБІЛЕЙ РЫГОРА БАРАДУЛІНА

* * *

*Радзіма,*
*Цябе не зламалі навалы.*
*Ты, гордая,*
*Моваю гневу назвала,*
*Каб помніў чужак,*
*Каб нашчадак твой ведаў:*
*Дзядоўнік –*
*татарнікам,*
*Шашаля –*
*шведам !..*

* * *

*Васілю Быкаву*

*Ён прадбачыў, прадказваў,*
*Прарочыў.*
*Ён душою крычаў. Ён маўчаў.*
*Ён з дарогі на сцежку не збочыў.*
*Ён глухім дараваў, выбачаў.*
*Пільнаваўся святых запаведаў:*
*Не рабуй !*
*Не няволь !*
*Не мані !*
*І гукаў прачынацца і ведаў,*
*Што ў адказ палятуць камяні.*
*Здрада й подласць за ім цікавала*
*І нянавісць ішла крок у крок.*
*І на ўсё ў гэтым свеце прыстала*
*Паглядзеў*
*Непачуты прарок.*

*КАЛІ АПОШНІ...*

*Калі апошні беларус*
*Апошні дзякуй небу скажа,*
*Туга на сэрца Богу ляжа*
*І ўсцешыцца прыблудны хлус.*

*Бог і спахопіцца тады,*
*Што цягавітых не хапае.*
*На ласку й так зямля скупая*
*І свет такі немалады.*

*Заселіць Беларусь наноў*
*Бог беларусамі такімі,*
*Што будуць на сваёй радзіме*
*Панамі без чужых паноў.*

*Край продкаў родны нездарма.*
*Душа без мовы – сіратою.*
*І вольны помніцьме пра тое,*
*Што шыі мулка ад ярма.*

*РЫГОР БАРАДУЛІН*

*24 лютага споўнілася 65 гадоў Народнаму паэту Беларусі, нашаму земляку Рыгору Барадуліну, які нарадзіўся на хутары Верасовачка на Ўшаччыне. З гэтай нагоды ў газеце "Народная воля" змешчана інтэрв'ю з паэтам, вытрымкі з якога мы прыводзім.*

- З якім настроем сустракаеце юбілей?
- **Сумна. Уся атмасфера ў нашай краіне не наладжвае на вясёлы лад. Прадаецца краіна, вынішчаецца ўсё беларускае: беларуская мова, душа народа. Але, паміраць збірайся, а жыта сей. Трэба спадзявацца, што "загляне сонца і ў наша ваконца".**
- Сябры прыйдуць да Вас?
- **Мае лепшыя сябры, на жаль, пакінулі нашу грэшную зямлю. З сапраўдных і шчырых застаўся толькі Васіль Быкаў. Дзякуй Богу, што ён зараз далёка адсюль, там ён больш пражыве. Быкаў усім недэмакратычным уладам быў няўгодны.**
- Вы паэт асаблівы, талент ад Бога...
- **Называць сябе паэтам вельмі адказна. Я пішу вершы, але ніколі не заяўляю, што я паэт.**
- Барадуліна не чуваць з адкрытай крытыкай існуючай улады. Чаму?
- **Я лічу, што для паэта самае галоўнае – пісаць. Мая палітычная дзейнасць абмяжоўваецца ўдзелам у партыі БНФ, зараз у партыі Вінцука Вячоркі. А Зянон Пазьняк быў і застаецца сімвалам і сумленнем беларускай нацыі.**
- Вы веруючы чалавек?
- **Вядома. Я уніят.**
- У камуністычнай партыі былі?
- **У піянеры не ўступаў. І ў камуністычнай партыі не быў ніколі.**
- Ваша самае запаветнае жаданне?
- **Каб Беларусь была Беларуссю.**

## ЦІ ПАТРЭБНА БЕЛАРУСАМ РОДНАЯ МОВА ?

Родная мова...На гэтай мове размаўлялі мае прашчуры. На гэтай мове размаўляю я, мае бацькі, будуць размаўляць мае дзеці, напэўна, і іх дзеці таксама. Чаму ж у некаторых узнікае пытанне: ці патрэбна беларусу родная мова? На гэта пытанне адказваюць па рознаму. Я лічу, што беларусу родная мова патрэбна. Які ж ён пасля гэтага беларус, калі не размаўляе па-беларуску? У кожнага народа свая мова. У немцаў – нямецкая , у рускіх – руская, а ў беларусаў павінна быць беларуская мова.

Некаторыя саромеюцца гаварыць на сваёй роднай беларускай мове. У асноўным гэта моладзь. Чаму яны саромеюцца, напэўна, думаюць, што руская мова больш прыгожая за беларускую. Але ж гэта не так. Амаль усе нашы пісьменнікі ўсхваляюць беларускую мову. Мне спадабалася, як напісаў пра яе Максім Танк:

Няма на зямлі таго шчасця і гора,
Якога б ты нам перадаць не магла,
Няма такіх нетраў, шырокага мора
І гор, праз якія б ты не правяла...

А Рыгор Барадулін пра Беларускую мову сказаў так: " Словы, дзе кожны гук азяблай сініцай ціньказ..."

Я лічу, што наша мова не горш за іншую, яна жывая і мілагучная, багатая, як само жыццё з яго радасцямі і горам, яна бессмяротная, як сам народ. Трэба любіць родную мову і не саромеючыся карыстацца ёй

*КАРАТКЕВІЧ ВОЛЬГА, вучаніца 7-а класа*
*Бачэйкаўскай школы*

**ЗІМА**

Зіма, як белы хмары
Прыйшла да нас павольна,
Накрыла белай коўдрай
Дамы і наваколле.

Усюды стала бела
І возера прыціхла,
І сонца пабялела,
І асака панікла.

**ВЕСНА**

Весною всё весеннее:
И горы, и леса,
И даже в небе солнышко
И в речке стрекоза.

Весною всё весеннее
И травка зеленеет,
И даже наша бабушка
Весною молодеет

Весною всё весеннее:
И поле, и река,
И даже настроение
У нашего щенка.

***Марына Трыфанава,***
***Вучаніца 7 класа Астровенскай школы.***
***Гэтыя вершы Марына напісада, калі вучылася яшчэ ў пятым класе. Зараз вершаў у яе ўжо шмат, спадзяемся, што Марына будзе пісаць і дасылаць нам свае новыя вершы.***

**ЧАРАЎНІЦА-ЗІМА**

Зімовы ранак. Са двара
Сярдзіты вецер дуе.
Ляціць сняжынак мішура,
Мароз на шкле малюе.

Імкнецца ён, каб прыгажэй
Усё тут выглядала.
У лесе ж вецер пацішэў
І весялей нам стала.

Зіма на ўсё навокал
Заслала абрусок.
Галінкі схамянуўшы
Ляціць на нас сняжок.

Галінкі мы кранаем зноў
І ловім белыя іскрынкі.
Цямнее, мы ідзем дамоў,
След зацярушваюць сняжынкі.

***Святлана Белавус,***
***вучаніца 6 "В" класа Бешанковіцкай сярэдняй школы***



**Частка чацьвёртая. НЕМЦЫ ЗА СТАЛОМ.**

Немцы пунктуальныя і разважлівыя не толькі ў працы, але і за сталом: усё робіцца, каб аблегчыць працу гаспадыні. На сняданак і на вячэру звычайна абыходзяцца паўфабрыкатамі, якія можна ўжываць прама з магазіна, без дадатковай апрацоўкі. Напрыклад, розныя віды каўбас, вяндліна, сыры,, расфасаваныя ў дробную ўпакоўку, разнастайныя салаты. Усё гэта выкарыстоўваецца ў выглядзе бутэрбродаў. Дарэчы, само слова "бутэрброд" нямецкага паходжання: "бутэр" па-нямецку – масла, а "брот" – хлеб.Але хлеб наразаецца разы ў тры таней, чым прывыклі наразаць мы, а масла ложыцца на хлеб чыста сімвалічна. Трэцім кампанентам можа быць сыр, варэнне, мёд, або нешта мясное, на любы густ. Запіваюць бутэрброды чаем, кавай або малаком. Ведаючы нашы прыхільнасці , для гасцей з Усходняй Еўропы немцы могуць прапанаваць і смажаную бульбу, як больш звыклую для нас і танную для іх страву. Застаецца дадаць, што бутэрброды яны ядуць ці проста трымаючы рукой, ці з нажом і відэльцам.

Абедаюць у Германіі без хлеба. Прынамсі, у зямлі Паўночнай-Рэйн Вестфаліі на абед прапаноўваюць звычайна варанае мяса з варанай бульбай і салату. Супы, баршчы і іншыя першыя стравы рыхтуюць рэдка, за месяц мы пакаштавалі іх разы два-тры. Затое кожны абед заканчваецца салодкім дэсертам: пудзінгам, кампотам, марожаным. Пасля такога абеду вельмі хочацца піць. Звычайную ваду з-пад крана тут не п'юць, выкарыстоўваюць мінеральную з бутэлек.

У нядзельныя і святочныя дні ежа становіцца больш разнастайнай. Раніцай замест чорнага хлеба – белыя булкі, у дапаўненне да бутэрбродаў – вараныя яйкі. Да абеду гаспадыня рыхтуе адзін-два пірагі з розным начыннем, якія запіваюць кавай.

Даводзілася мне ў Германіі і самому хадзіць у госці, і назіраць, як прымаюць гасцей. Напрыклад, на дзень нараджэння госці прыходзяць з падарункамі некалькі раней названага часу. Віншуюць, уручаюць падарункі, суправаджаючы гэта рознымі жартамі. Гасцям адразу прапаноўваюць нейкі напітак па іх выбару, але ніхто не настойвае, каб ты абавязкова піў, тым больш, калі ты не п'еш, ніхто не скажа, што гэта ты яго "не паважаеш". Калі сабраліся ўсе госці, іх запрашаюць у залу, дзе стаяць ненакрытыя сталы. Уся ежа знаходзіцца на асобным стале наводдаль, кожны падыходзіць і сам накладвае тое, што яму падабаецца. Але моцных напояў ужо не прапануюць. Пасля таго, як усе пад'елі, свята працягваецца.

Давялося мне назіраць, як на працягу тыдня суседзі святкавалі 25-годдзе свайго сумеснага жыцця. У панядзелак сабраліся адны мужыкі, узялі з сабой піва і шнапс (без закускі) і паехалі на трактары ў лес нарыхтоўваць яловыя лапкі. У аўторак сабраліся адны жанчыны, сплялі з тых лапак гірлянды, упрыгожылі імі кафэ, дзе праводзілі потым святкаванне. "Маладажоны" з'ездзілі ў кірху (царкву), дарогу ім шмат разоў перагароджвалі. У кафэ святкавали некалькі дзён. Нарэшце ў нядзелю сабраліся апошні раз, паздымалі ўпрыгожанні са сцен кафэ і адвезлі іх да таго з суседзяў, хто будзе ладзіць свята наступным. Вядома, тыя гірлянды ўжо нікому не патрэбны, мы з мужыкамі ўпрыгожылі імі суседаў гараж, у якім потым яшчэ да двух гадзін ночы пілі гарэлку. Гэта я для таго, каб крыху развеяць міф аб нямецкім цьвярозым і разважлівым ладзе жыцця. Дарэчы, немцы п'юць не закусваючы, напэўна, таксама з мэтай эканоміі, запіваючы шнапс півам. Тады пасля 100 грамаў і дзвюх бутэлек піва мэта лічыцца дасягнутай, у адрозненне ад нашай звыклай для многіх "нормы": па бутэльцы на рыла.

Адной з добрых звычак немцаў, дастойнай пераймання, з'яўляецца звычка нічога не пакідаць на сваёй талерцы, не толькі рэшткаў ежы, нават крошак. Напэўна таму і з'яўляецца Германія адной з багатых краін, што немцы ўмеюць эканоміць.

***Г. Станкевіч***

# АДКУЛЬ НАШ РОД

Паводле кнігі Уладзіміра Арлова, працяг.

**РАГВАЛОД І РАГНЕДА**

Тысячу гадоў таму назад Полацкам кіраваў князь Рагвалод, уладу якога прызнавалі ўсе навакольныя землі. Гэта значыць, што ўжо тады ўтварылася першая беларуская дзяржава - Полацкае княства.

У сталіцу везлі з падуладных земляў мяса і збожжа, мёд і воск, шкуры звяроў. Адусюль збіраліся воіны, калі нападалі ворагі. Суседзі-князі Кіеўскі Яраполк і Наўгародскі Ўладзімір імкнуліся сябраваць з моцным Полацкам. Для гэтага яны хацелі парадніцца. Спачатку ў Полацк прыехалі сваты да дачкі Рагвалода прыгажуні Рагнеды з Кіева. Рагвалод згадзіўся аддаць Рагнеду ў Кіеў, але тут з'явіліся сваты з Ноўгарада. Князь паклікаў дачку і перад гасцямі запытаўся, ці хоча яна пайсці за Уладзіміра. Ганарлівая Рагнеда адмовілася, яна ўжо збіралася ў Кіеў.

Даведаўшыся пра гэта, Уладзімір угневаўся і з войскам рушыў на Полацк. Князь Рагвалод не паспеў сабраць войска. Чужынцы захапілі горад, забілі Рагвалода і яго сям'ю.Уладзімір захапіў Рагнеду. Потым ён забіў і Яраполка і зрабіўся Кіеўскім князем. Рагнеду ён пасяліў у вёсачцы пад Кіевам, дзе яна гадавала князевых дзяцей.Але Рагнеда не забылася пра радзіму, пра смерць сям'і і спалены Полацк.Яна вырашыла адпомсціць і ўзяла кінжал. Але забіць Уладзіміра не здолела. Расправіцца з непакорнай Рагнедай не дазволіў яе старэйшы сын - Ізяслаў, хоць яму было толькі сем гадоў. Князь саслаў Рагнеду з сынам на яе Бацькаўшчыну, пабудаваўшы для іх горад Ізяслаў(цяперашняе Заслаўе пад Мінскам). Заслаўю, як і Полацку, болей за тысячу гадоў. Там і прайшло астатняе жыццё мужнай і непакорнай Рагнеды. І зараз праз Заслаўе цячэ рэчка Княгінька, як памяць пра полацкую князёўну.

**ІЗЯСЛАЎ І БРАЧЫСЛАЎ**

Князь Уладзімір адправіў Рагнеду з Кіева на радзіму, але жорсткі кіеўскі ўладар разлучыў маці і сына. Ізясдава адвезлі ў Полацк і больш у іх не было магчымасці ўбачыць адзін аднаго. Маці вельмі сумавала па сыне, які выратаваў яе ад смерці, аднак Уладзімір загадаў не пускаць Рагнеду ў родны Полацк, які ў той час ужо паднаўся з папялішча. Там і жыў Ізяслаў, які таксама тужыў па маці. Толькі з акна ён мог убачыць купецкія караблі на Дзвіне. Хлопчыку хацелася стаць вольным, але прыстаўленыя слугі ні на крок не адпускалі яго.

Князя Ўладзіміра ў Полацку так ненавідзелі, што ні князі, ні простыя людзі доўга не давалі сваім сынам яго імя.

Ізяслаў больш за ўсё любіў кнігі. Зрабіўшыся дарослым, князь Ізяслаў стаў клапаціцца, каб грамаце вучыліся і іншыя палачане. Пры ім у Полацку з'явілася першая школа, настаўнікамі ў якой былі вучоныя манахі. Пісалі на пакрытых воскам дошчачках або на бяросце. Князь пачаў збіраць першую ў Беларусі бібліятэку. Кніг было мала, каштавалі яны надзвычай дорага, бо кожную перапісвалі ад рукі. Замест паперы быў пергамент з тонкай цялячай скуры. Магчыма, Ізяслаў і сам перапісваў кнігі, бо вельмі любіў кніжнае слова.

Ізяслаў быў першым беларускім асветнікам. У яго падрастаў сын Брачыслаў. Крывіцкія князі ў тры гады садзілі сыноў на каня, у сем аддавалі вучыцца грамаце, а ў дванадцаць бралі на вайну. Ізяслаў памёр маладым, палачане думалі, што яго атруцілі людзі Ўладзіміра. У Кіеве баяліся, што полацкае княства зноў стане свабодным і магутным.

Полацк бярог свайго маленькага князя, бачыў у ім сваю надзею. Выхоўвалі хлопчыка самыя мудрыя баяры. Яны не шкадавалі сіл, каб ён рос дужым і спрытным, разумным і справядлівым, каб любіў родную зямлю.

Князь Брачыслаў вырас добрым палкаводцам і мудрым палітыкам.

У Кіеве ўжо валадарыў сын Уладзіміра Яраслаў. Яму не падабалася, што Полацкае княства набірае сілу. Брачыслава папярэдзілі аб задумках Яраслава напасці на Полацк. І палачане вырашылі першымі напасці на падуладны Кіеву Ноўгарад. Брачысдаў завалодаў суседнім княствам. Калі ён вяртаўся, то сустрэў войска Яраслава. Адбылася бітва на рацэ Судоме (1021 год). Перамог Брачыслаў, далучыўшы да Полацка Віцебск і Ўсвят. Пасля гэтай бітвы полацкае княства зрабілася незалежнай дзяржавай. У гонар Брачыслава быў названы заснаваны ім Браслаў. Магчыма, у той паход разам з бацькам ужо хадзіў яго сын Усяслаў, які стане самым славутым з полацкіх князёў.

*Працяг у наступным нумары*



# З “ЧЫРВОНАЙ КНІГІ” БЕЛАРУСІ

***З мэтай аховы і павелічэння рэдкіх і знікаючых відаў жывёл і раслін была заснавана “Чырвоная кніга Беларусі”. Зараз у ёй каля ста раслін, якія пад пагрозай знікнення. За апошнія сто гадоў мы ўжо згубілі каля сямідзесяці відаў раслін, сярод якіх гарыцвет вясенні, шпажнік балотны і іншыя. Знікненне любой расліны – непапраўная страта для ўсяго чалавецтва.Таму не лішнім будзе напомніць пра некаторыя расліны са старонак Чырвонай кнігі. Калі людзі будуць ведаць, што нейкая кветка магчыма апошняя ў нашых мясцінах, то можа ў яе будзе больш шансаў выжыць, не быць стаптанай ці сарванай.***

***Зімой мы сумуем па зелені і яркіх фарбах і таму так радуемся з'яўленню першых вясенніх кветак. Сярод першацветаў якраз шмат раслін, занесеных у Чырвоную кнігу. Напрыклад:***

**ПЕРАЛЕСКА ВЫСАКАРОДНАЯ ( пячоначніца, пралеска ).**

Сустракаецца ў пералесках, хмызняках, ельніках. Зацвітае адной з першых, ужо ў красавіку, калі побач яшчэ ляжыць снег Кветкі адзіночныя, даволі буйныя, яркія фіялетава-блакітнага, радзей белага ці ружовага колеру.

Амаль з голай зямлі, з прэлага мінулагодняга лісця цягнуцца да сонца кволыя сцяблінкі з блакітнымі зорачкамі кветак. У сярэдзіне кветкі сярод пяці-сямі закругленых пялёсткаў – белыя тычынкі і песцікі. Пад кветкай – пакрывала з трох зялёных лісцікаў, на ноч і ў дажджлівае надвор'е кветкі закрываюцца.

У час цвіцення ў пералескі захоўваецца мінулагодняе зялёнае лісце: на доўгіх чаранках трохлопасцевыя скурыстыя цёмна-зялёныя лісты, па форме падобныя на печань (адсюль і назва). Маладое лісце пачынае адрастаць пасля цвіцення, у маі: светла-зялёнае, пушыстае. Усё лета лісты будуць выпрацоўваць пажыўныя рэчывы, назапашваць іх у карнявішчах, каб вясной даць сілу новым кветкам.

Размнажаецца пералеска насеннем і вегетатыўна. Яе можна пасадзіць у палісадніку, толькі трэба абавязкова крыху прыцяніць, або размясціць пад засенню сцяны ці плота, бо ў прыродзе яна не любіць расці на адкрытых месцах.

Вакол вялікіх гарадоў забаронена збіраць і прадаваць пералеску, бо яе колькасць памяншаецца менавіта ў выніку збору цвітучых раслін. На жаль, многія “аматары прыроды” вясной цягнуць з лесу вялікія букеты з гэтых пяшчотных кветачак. Радасць ад гэтых букетаў мімалётная, праз дзень-два іх выкідаюць, а вось страта для прыроды можа быць незаменная.

Пералеска высакародная выкарыстоўваецца ў народнай медыцыне. Як і ўсе лютікавыя, яна ядавітая. Паглядзіце на яе – і не чапайце, няхай расце, бо кожная кветка прыгажэй за ўсё выглядае там, дзе вырасла.

## *Гэта было…*

* * *

Адправіўся Іван на кані ў мястэчка, каб папоўніць харчовыя запасы і яшчэ нейкую дробязь купіць для гаспадаркі. Зрабіў пакупкі і вырашыў завітаць да сваякоў у госці – “абмыць” тавар. Дадому Іван выправіўся вясёлы, песні спрабаваў спяваць, але хутка заснуў на калёсах. Пад восень дзень кароткі, сцямнела хутка, а да вёскі – кіламетраў дваццаць з гакам. Конь стары, дарогу дамоў добра ведае. Праз нейкі час падвода спынілася каля роднай хаты. На ганак выйшла жонка, якая даўно пачала хвалявацца – куды прапаў муж. Іван крыху апрытомнеў, але дзе ён уцяміць яшчэ ніяк не мог, бо спаў усю дарогу, як пшаніцу прадаўшы. З горам папалам усёж разгледзеў у цемры нейчую постаць і пытае: “Цётка, а цётка, скажы, куды гэта я трапіў?” “ Я табе зараз пакажу, “цётка”! Што, п'янка розум з'ела? Набраўся, як жаба гразі, нават не ведаеш, што дадому прыехаў” – пачуў ён раптам жончын голас. Доўга яшчэ ў Іванавай хаце гарэла святло, жонка ледзь не да рання вычытвала Івана.

***Уладзімір Асокін***

* * *

Гэта было ў 1948 годзе ў вёсцы Патапава Шклоўскага раёна. Вярталіся мы ўшасцёх са школьнага вечара з суседняй вёскі, ужо амаль прыйшлі да сваіх дамоў наўпрасткі праз агароды. Ідзём па мяжы. Цёмна. Раптам дарогу перагарадзіла жанчына ў белым адзенні. Абыйсці ніяк нельга, з абодвух бакоў парканам загароджана. А яна рукамі махае. І тут да нас дайшло – гэта ж суседка, якая памерла дзён дваццаць таму назад! Як яна сюды трапіла, яе ж пахавалі? – мільганула ў галаве. Мы ўсе яе даволі добра бачылі, усе пазналі. Што рабіць? Уцякаць? – дык не маленькія ўжо, потым засмяюць. Тады я выхапіў з паркану палку і замахнуўся. Постаць адразу знікла і мы разыйшліся па хатах, але доўга не маглі заснуць, уражаныя. Назаўтра ў школе ўсім расказвалі пра начны выпадак. І настаўніца, і дырэктар школы супакойвалі нас, казалі, што нам усё здалося. Толькі здарэнне гэта і праз гады не сцерлася з памяці, бо так і не знайшлося яму тлумачэння.

*Гэту гісторыю мне раказаў Віктар Дзянісавіч Кузьмічоў. Калі вам таксама ўспомнілася штось цікавае, смешнае, страшнае ці недарэчнае,- напішыце на адрас: Бешанковічы, Маладзёжная, 9 – 21, або пазваніце па тэлефоне 2-26-93*

***В.Гракун***

“Кардон”. Бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі “Таварыства Беларускай мовы “. № 7, люты 2000.
Рэдкалегія: Валянціна Гракун, Алесь Бабаед, Георгій Станкевіч. Тыраж 299. Выдадена пры падтрымцы Віцебскага філіяла “Фонда імя Льва Сапегі”. Распаўсюджваецца бясплатна